Маладзечна, Вілейка, Смаргонь, Ашмяны, Валожын, Мядзел, Астравец, Мінск

# Рэгіянальная ГАЗЕТА

№ 5 26 мая- 1 чэрвеня 1995 года ЦАНА 200 рублёў

ІНФАРМАЦЫЙНА-РЭКЛАМНАЕ ВЫДАННЕ

Расклад руху ЭЛЕКТРЫЧАК —3-я старонка

## Мы наш, мы новы... пабудуем магазін





***Ламаць — не будаваць. Зусім мала часу спатрэбілася, каб на месцы былога «пятнаццатага» магазіна, што стаяў якраз насупраць маладзечанскай мэрыі, быў пакінуты толькі падмурак. Ад дабротнага, пабудаванага адразу пасля вайны будынка, сапраўды нічога не засталося. Бо цэглу дазволілі браць усім, хто захоча. Іжадаючых набыць яе было шмат.***

А потым пачалася будоўля. Фірма «Айра», новая гаспадыня зямельнага ўчастка, шпарка пачала справу. Па праекту тут планавалася ўзвесці сучасны будынак, дзе размясціліся б офіс фірмы, супермаркет, кафэ-бар, стаянка для аўтамабіляў.

І вось з'явілася бетонная агароджа, быў закладзены новы падмурак. Ды раптам горад абляцела нядобрая вестка: у «Айры» з'явіліся сур'ёзныя фінансавыя праблемы. Чуткі пацвердзіліся спыненнем ўсіх работ на аб'екце.

Зразумела, рана ці позна будоўлю ўзнаўляць прыйдзецца. Невядома пакуль, каму? Адно можна прагназаваць, што справа завісла ў паветры і, відаць, яшчэ доўга будзе там вісець.

Простым маладзечанцам застаецца толькі пацісквацъ плячыма: навошта было рушыць такі будынак? Урэшце рэшт, калі ён не падабаўся і псаваў настрой былому мэру Генадзю Карпенку, можна было б адрамантаваць яго, нарасціць яшчэ адзін паверх, як гэта вельмі ўдала робяць нашы суседзі, напрыклад, у Польшчы, Літве.

А калі ўжо так вельмі хацелася кіраўніцтву горада палепшыць архітэктурны ансамбль вакол будынка мэрыі, то зусім побач знаходзіцца стары драўляны двухпавярховы барак, за якім хаваюцца такія ж непрыглядныя драўляныя хлеўчукі і груды смецця. Абгарадзі ўсё гэта цяпер бетоннай сцяной — і выгляд стане куды лепшы.

*Іван САДОЎСКІ, жыхар Маладзечна*

**Ад рэдакцыі. Слова нашага чытача можам праілюстраваць толькі фотаздымкамі. Адзін з іх, левы, архіўны. На пасляваеннай вуліцы, што носіць цяпер імя Сяргея Прытыцкага, не паспелі знесці яшчэ старыя баракі, а за імі выглядае ўжо толькі што пабудаваны магазін. Той самы, «пятнаццаты». Тады думалі, што будуем на вякі. Магазіны, жыццё...Здымак справа зроблены зусім нядаўна. На тым самым месцы, дзе стаяла гэтая крама.**

Культура

## Фестываль імя М.-К.Агінскага закончыўся ўчора ў Смаргоні

IV Рэспубліканскі музычны фестываль для дзяцей праходзіў 4 дні. А бралі ў ім ўдзел вучні дзіцячых музычных школ, ліцэяў, вучылішчаў з Беларусі і Літвы. Міжнароднае адценне надало і прыбыццё гасцей з Варшавы.

Увесь гэты час у Смаргоні, Залессі гучалі камерныя ансамблі, віяланчэль, скрыпка.

Але музычная праграма — толькі частка фестывалю. Тут былі экскурсіі, выстаўкі.

Наступны, пяты па ліку фестываль, будзе, як чакаецца, больш прадстаўнічым і шырокім, аб чым вядзецца гаворка ўжо сёння. Мяркуецца, што ў ім прымуць удзел дзеці з Польшчы. Імя нашага земляка Агінскага збліжае народы.

*А. М.*



## ІНДЭКС ПІСАЦЬ НЕ ТРЭБА

Працягваецца падпісная кампанія на «РЭГІЯНАЛЬНУЮ ГАЗЕТУ». На наша выданне можна падпісацца ў Маладзечне, Вілейцы, Смаргоні, Ашмянах, Мядзеле, Астраўцы і адпаведных раёнах Мінскай і Гродзенскай абласцей. На жаль, у Валожыне і Мінску падпіска на «РГ» не праводзіцца. У гэтых гарадах газета ў наступным квартале будзе распаўсюджвацца толькі праз кіёскі «Белдруку». З чацвёртага ж квартала, калі «РЭГІЯНАЛЬНАЯ» будзе ўнесена ў рэспубліканскі падпісны каталог, выпісаць яе можна будзе і ў сталіцы. ***Цяпер пры запаўненні абанемента індэкс пісаць не трэба.***

**Падпісная цана на квартал— 5 тысяч рублёў**

**(у Вілейцы— 5100 руб.)**

Кожны тыдзень навіны нашага краю— у ваш дом!

Ф. РД-1

Міністэрства сувязі і інфарматыкі Рэспублікі Беларусь

АБАНЕМЕНТ на ~~(індэкс выдання)~~

РЭГІЯНАЛЬНУЮ ГАЗЕТУ

Колькасць камплектаў

На 1995 год па месяцах

| 1 | 2 | 3 | 4 | 5 | 6 | 7 | 8 | 9 | 10 | 11 | 12 |
|---|---|---|---|---|---|---|---|---|---|---|---|
| | | | | | | | | | | | |

Куды (паштовы індэкс) (адрас)

Каму (прозвішча, ініцыялы)

ДАСТАВАЧНАЯ КАРТАЧКА

ПВ месца літар на ~~(індэкс выдання)~~

РЭГІЯНАЛЬНУЮ ГАЗЕТУ

| Кошт | падпіскі | руб. | Колькасць камплектаў |
|---|---|---|---|
| | пераадрасоўкі | руб. | |

На 1995 год па месяцах

| 1 | 2 | 3 | 4 | 5 | 6 | 7 | 8 | 9 | 10 | 11 | 12 |
|---|---|---|---|---|---|---|---|---|---|---|---|
| | | | | | | | | | | | |

Куды (паштовы індэкс) (адрас)

Каму (прозвішча, ініцыялы)

